# ПАГОНЯ

Чацвер
12 кастрычніка 2000 г.
№ 38 (485)
Кошт 70 рублёў

## Гарадзенскую міліцыю праінспектаваў чалавек Лукашэнкі

**10 і 11 кастрычніка міністр унутраных справаў Беларусі Уладзімір Навумаў наведаў з рабочым візітам Гарадзенскую вобласць. У прыватнасці, ён пачаў свой візіт з наведвання Слонімскага і Зэльвенскага аддзелаў унутраных справаў.**

Гэты візіт стаў першым сярод паездак Навумава па рэгіёнах краіны на новай пасадзе. Яго мэта - знаёмства з працай і асабовым складам міліцэйскіх падраздзяленняў. У Гродне міністр правёў пасджэнне калегіі ўпраўлення ўнутраных справаў, пасля чаго, у другой палове дня, меў намер наведаць часць унутраных войскаў, аб'яднанне «Ахова» і Дзяржаўтаінспекцыю.

Ася Куніцкая

## Гарадская телефонная сетка па-ранейшаму лічыць сябе спецслужбай

**Наша газета ў нумары ад 5 кастрычніка пісала пра намаганні гарадзенскай тэлефоннай сеткі незаконна завалодаць правамі выклікаць грамадзянаў і правяраць іхнія дакументы. Апошнім часам выявілася, што гэтыя памкненні ГТС зафіксавала юрыдычна.**

Так, тыповая дамова ГТС з абанентам ў пункце 2.2 вызначае абавязак абанента «беспрашкодна дапускаць тэхнічных работнікаў прадпрыемстваў сувязі пасля падання імі пасведчанняў з фотаздымкам, замацаваным пячаткай...». У гэтым жа пункце пазначанае яшчэ адно жаданне ГТС набыць неўласцівыя функцыі: «не дазваляць выкарыстання тэлефоннай сувязі ў мэтах, якія супярэчаць дзяржаўным інтарэсам і грамадскаму парадку». Цікава, як ГТС будзе вызначаць гэтыя «супраць-дзяржаўныя мэты»?

Чым займацца лухтою, лепей тэлефонныя сеткі паклапаціліся б пра беспрашкодную сувязь, на якую ў горадзе шмат нараканняў, лепей парупіліся б пра павелічэнне колькасці абанентаў, пра ўкараненне найноўшых дасягненняў у галіне сувязі і г.д.

Сяргей Сноп

## Школьная газэта не дае спаць «вертыкалі»

**У Зэльве мясцовыя ўлады распачалі пераслед школьнай газэты «Зэльвяначка». Намесьніца старшыні мясцовага райвыканкаму Алена Коўш выклікала да сябе дырэктара беларускамоўнай СШ N3, завучаў, настаўнікаў і нават лабарантку. «Чаму гэта толькі ў вашай школе дадумаліся да таго, каб выдаваць газэту, а ў астатніх не?» - дапытвалася чыноўніца, сама ў мінулым дырэктарка гэтай жа школы.**

Рэдактарку газэты, настаўніцу матэматыкі Лілію Качук папярэдзілі, што яна страціць працу, калі выйдзе хоць яшчэ адзін нумар.

Аднак, рэдкалегія «Зэльвяначкі» зь ліку настаўнікаў, шкаляроў ды іхных бацькоў рыхтуе трэці нумар газэты. Калі ўціск працягнецца, яны маюць намер зьвярнуцца па дапамогу ў праваабарончыя арганізацыі.

Юлія Дарашкевіч




13, 14 кастрычніка - воблачна, з праясненнямі, месцамі - ападкі, вецер паўночна-ўсходні, 6-10 м/с. Тэмпература паветра **13 і 14 кастрычніка** - уначы +2...+4, удзень +12...+14.




8 кастрычніка ў Гародні адбыўся Марш Свабоды, які быў накіраваны супраць выбарчага фарсу, што павінен адбыцца ў бліжэйшую нядзелю
Больш падрабязна пра гэтую акцыю - на стар. 2

## Галасуй, не галасуй – атрымаеш той жа вынік!

**Выбары без удзелу апазіцыі нагадваюць мерапрыемства ў савецкім стылі. Усе кандыдаты падобныя, як блізнюкі. Відаць, з гэтай прычыны яны выдалі сумесныя агітацыйныя ўлёткі, на якіх на адным аркушы змешчаны ажно па чатыры ці, нават, па пяць кандыдатаў. Аднак некаторыя адрозненні паміж прэтэндэнтамі ў «палатку» ды іхнімі праграмамі ўсё ж ёсць.**

Надзвычай парадавала сваім радыкалізмам спадарыня Ганна Бурава, так і піша: «Спыніць жабрацтва народа». Кандыдатка заяўляе, што ў парламенце няма вытворцаў - таму і законы дрэнныя, асабліва для вытворчасці. Дзіўная логіка, бо ў «палатцы» шмат калгаснікаў, а сельская гаспадарка яшчэ ў больш гаротным становішчы, чым беларуская вытворчасць. «Беларусь не горш за Швейцарыю», - сцвярджае кандыдатка. У Швейцарыі, мілая пані, вытворцы займаюцца сваёй справай, а палітыкі - сваёй.

Рускі адстаўны афіцэр Алег Каратаеў чамусьці вырашыў стаць выяўляльнікам інтарэсаў нашых жыхароў. Але гэты хоць камуніст і жадае «забяспечыць сапраўднае народаўладдзе». Як разумеюць камуністы народаўладдзе, мы памятаем - як кіруючую ролю сваёй партыі пры здушэнні любой апазіцыі. «За годнае жыццё для сябе і сваіх дзяцей!» - заклікае Каратаеў. Ну, дык за цябе, добры чалавек, калі так просіш. Яшчэ адзін камуніст, Аляксей Клокаў, 1938 года нараджэння, задае пытанне: «Нашто рабілі дэнамінацыю?» Адказу чамусьці не дае. Можа, забыўся?

А вось такі малады і шпаркі юрыст Іван Калошыц. «У 1996 годзе мы зрабілі свой выбар, прынялі новую Канстытуцыю», - піша ён. Нічога такога мы не рабілі, шаноўны, за сябе гаварыце. Тым больш, што юрысту належала б ведаць, што Канстытуцыя ў нас прынятая ў 94-м годзе, і ніякай «новай» болей не было. І чаму Вы на фотаздымку без кашулі і без гальштука?

Зампаліт Аляксандр Лапковіч напісаў цэлае сачыненне наконт «сапраўднага сэнсу маючых адбыцца выбараў». Пасля такога адкрыцця сапраўднаму афіцэру застаецца адно... Тым больш, што публічна заявіў: «Гонар маю!»

Праграмы некаторых кандыдатаў выглядаюць прыстойна, і на сумленных выбарах гэтыя людзі маглі б прэтэндаваць на поспех. На жаль, з-за гэтай прыстойнасці яны могуць стаць аб'ектамі маніпуляцыяў выбарчых камісіяў. Дарэчы, ведаеце, чаму прайграў Мілошавіч? Бо ўсе выбарчыя камісіі выдалі апазіцыі копіі сваіх выніковых пратаколаў. Пакуль гэтага не будзе ў нас - выбары будуць без выбару.

Сяргей Самасей

## Добраахвотна-прымусовае галасаванне пачалося...

**10 кастрычніка - першы дзень, прызначаны Лукашэнкам на датэрміновыя выбары ў «палатку». Улады ўскладаюць на іх вялікія спадзяванні.**

Паводле інфармацыі, атрыманай ПАГОНЯЙ, на ВА «Хімвалакно» былі праведзеныя агульныя сходы, дзе працоўных заклікалі прагаласаваць яшчэ да 13 кастрычніка. Маўляў, 15-га будзе нехта з АБСЕ, асабліва не намахлюеш. Адказнымі за «дастаўку» рабочых прызначаныя начальнікі цэхаў.

У Беларускім саюзе прамысловых мантажнікаў арганізоўваюць на датэрміновае галасаванне аўтобусы і дазваляюць адпускаць супрацоўнікаў з працы на гадзіну раней.

Такім жа чынам «гоняць» людзей і ў Гроднажылбудзе.

На «Азоце» намеснік дырэктара па інфармацыі Міхаіл Краўчанка загадаў начальнікам цэхаў забяспечыць яўку ўсіх на выбары. Асаблівую стаўку загадана зрабіць на інтэрнаты, дзе пражываюць рабочыя. Для саміх начальнікаў дзень 15 кастрычніка абвешчаны працоўным.

На гістарычным факультэце нашага універсітэта з ліку студэнтаў І-ІІ-га курсаў, пераважна бэпээсэмаўцаў, дэканат прызначыў дружыннікаў. Як сказаў адзін з дружыннікаў, іх задача - сачыць, каб «бэнэфаўцы не расклейвалі ўлёткі з байкотам выбараў».

**Юрыдычная даведка ПАГОНІ: Выбарчы кодэкс Беларусі ЗАБАРАНЯЕ прымушаць людзей ісці на выбары (артыкулы 5, 49). Вы САМІ вырашаеце - удзельнічаць у галасаванні альбо не.**

П.М.

## Лепш зь сям'ёю на прыродзе, чым такія выбары!

**У нядзелю - выбары. У буфеце будзе танная кілбаса, а ў актавых залях - выступленьні школьных самадзейных калектываў як альтэрнатыва лецішчам і шашлыкам на прыродзе.**

**«Як Вы зьбіраецеся правесьці нядзелю, 15 кастрычніка?» - тэма тэлефоннага апытаньня ПАГОНІ.**

**Эдуард Крупянскі, беспрацоўны:**

- Яшчэ ня ведаю. Хіба пойдзем з дачкой і сабакам гуляць у лес, а ўвечары буду дваццаць другі раз глядзець мульцік «Анастасія», які так падабаецца маёй дачцэ. На выбары не пайду, бо ня веру ў іх.

**Ганна Пятроўна, пенсіянэрка:**

- Як заўсёды, у агародзе буду корпацца. Ня ведаю, ці буду галасаваць - да гэтага дажыць яшчэ трэба. Напэўна, не. Але калі ўсе суседзі пойдуць, то і я пайду.

**Таццяна Маліноўская, выкладчыца Гарадзенскага дзяржаўнага ўнівэрсытэту імя Я.Купалы:**

- Яшчэ не плянавала. Адзінае дакладна ведаю - што не пайду на выбары, бо не лічу, што яны патрэбныя. Не хачу ўдзельнічаць у марнатраўстве грошай. Вольны дзень, шмат шпацыру на сьвежым паветры...

**Іван Назарук, студэнт:**

- Буду рыхтаваць урокі на панядзелак, гуляць, піць піва, строіць дурня. Калі будзе добрае надвор'е, мо на выбары схаджу. Калі кепскае - буду ў хаце сядзець.

**Надзея Трафімюк, прадаўшчыца:**

- На выходныя ўсёй сям'ёю паедзем на вёску - яшчэ трэба тое-сёе па гаспадарцы дарабіць. Галасаваць хіба давядзецца датэрмінова, у пятніцу. Ня ведаю яшчэ - за каго, трэба будзе газэту хоць якую пачытаць, што яны там пішуць.

**Дзьмітры Іваноўскі, мастак:**

- Проста буду працаваць цэлы дзень у майстэрні. Галасаваць не пайду, бо гэта выбары без выбару.

**Вера Арлова, хатняя гаспадыня:**

- У мяне 15 кастрычніка дзень нараджэньня. Таму ўсе мае сваякі і знаёмыя на выбары не пойдуць - будуць гарэлку піць. Тым больш, што гэтыя дэпутаты мне і маім дзецям ня зробяць пад'есьці.

**Генадзь Сямчук, вартаўнік СШ N16:**

- Паеду на рыбалку - толькі не на выбары. Я ж па тэлебачаньні бачу, якія «адмарозкі» ідуць у кандыдаты. Яны два словы зьвязаць ня могуць, па паперцы чытаюць свае праграмы. Тым больш, што мой заробак у 13 тысячаў яны не павялічаць.

Юлія Дарашкевіч

*Выбары выбарамі, а жарты жартамі*

## Правілы паводзінаў на выбарах

**Дзень выбараў - гэта адзіны дзень, калі мужчыны і жанчыны карыстаюцца адной кабінкай.**

1. Заходзьце ў кабінку, паперу вам выдадуць заранёў.
2. Калі ля кабінкі вы пабачыце назіральніка - не засмучайцеся, у кожнага свае недахопы.
3. Калі вы заўважыце ў кабінцы мухаў - не палохайцеся, гэта выпадковае супадзенне.
4. Не адчувайце сораму за свае жаданні, тое робяць усе.
5. Паспрабуйце зрабіць усё ціха, памятайце: шмат хто пакутуе моўчкі.
6. Скончыўшы сваю справу, вы адчуеце вялікую палёгку.
7. Скарыстаную паперу кіньце ў скрыню.
8. Апасля гэтага абавязкова памыйце рукі з мылам: палітыка - гэта брудная справа.

 



## 8 кастрычніка акцыі пратэсту супраць выбарчага фарсу адбыліся таксама ў трох гарадах Гарадзенскай вобласці

## Слонім

**8 кастрычніка, з 11.00 да 13.00, на плошчы Леніна ў райцэнтры ладзіўся санкцыянаваны пікет.**

У ім удзельнічала каля 30 чалавек. Пікетоўцы трымалі плакаты з надпісам «Байкот-2000», з цытатай А.Лукашэнкі «Не хадзіце на гэтыя выбары - усё роўна падмануць» ды плакат-малюнак, на якім «усенароднаабраны» з бізуном загадвае статку авечак ісці на выбары.

Пікетоўцы раздавалі ўлёткі з заклікам байкатаваць выбары, газеты «Рабочы» і «Права на волю». Падчас пікету было сабрана каля 50 подпісаў за чатыры ўмовы АБСЕ, вёўся запіс у сябры БНФ. Паводле сведчання ўдзельнікаў, на пачатку пікету непадалёк дзяжурылі некалькі пераапранутых у цывільнае міліцыянтаў.

## Ліда

**8 кастрычніка адбыўся мітынг і ў Лідзе.**

Напачатку лідчукі планавалі правесці яго на плошчы Леніна, у цэнтры горада, аднак гарвыканкам забараніў.

І ўсё ж па горадзе былі распаўсюджаныя тысячы ўлётак, якія запрашалі лідчукоў на сустрэчу з выбаршчыкамі а 12-й гадзіне на той жа плошчы. На гэта афіцыйны дазвол уладаў не патрабаваўся. Гарвыканкам зразумеў, што мітынг усё-такі адбудзецца. Таму 6 кастрычніка намеснік старшыні гарвыканкама І.Малец прапанаваў старшыні другой суполкі БНФ горада Ліды Станіславу Карабану, што падаваў заяву, правесці мітынг на Кургане. На наступны дзень арганізатар мітынгу і ўлады прыйшлі да пагаднення, што людзі збяруцца на плошчы Леніна, а потым пройдуць да Кургана. Тым самым улады фактычна арганізавалі апазіцыйнае шэсце па горадзе.

На мітынг сышлося каля 60 чалавек. Актывісты лідскіх арганізацый трымалі лозунгі: «Не - выбарчаму фарсу!», «Байкот-2000», «Перамаглі сербы - пераможам і мы». Плакат з надпісам «Не - выбарчаму фарсу» міліцыянты прымусілі прыбраць. Лозунг быў канфіскаваны, а на сябра лідскай арганізацыі БНФ Паўла Анацку, што трымаў лозунг, склалі пратакол.

На мітынгу выступалі з прамовамі намеснік старшыні БНФ Вячаслаў Сіўчык, прадстаўнік Гарадзенскай партыі спадар Сянкевіч ды старшыня лідскай гарадской арганізацыі БНФ Станіслаў Суднік. Удзел у мітынгу ўзялі таксама прадстаўнікі АБСЕ, якія прыехалі ў Ліду у якасці назіральнікаў за выбарамі.

Напрыканцы мітынгу былі затрыманыя спадар Станіслаў Суднік і старшыня гарадской арганізацыі БСДП (НГ) Алесь Судар. Разам з імі ў пастарунак «запрасілі» і сябра АГП Віктара Аўгусціна, на нагавіцах якога была налепка «Все на выборы». Іх адпусцілі праз паўгадзіны, так і не склаўшы пратакол.

**Алеся Сідлярэвіч**

## Смаргонь

**У цэнтры Смаргоні ў мінулую нядзелю сябра Кансерватыўна-Хрысціянскай Партыі - БНФ Віктар Туравец правёў несанкцыянаваны пікет. Ён трымаў плакат з тэкстам «Не - выбарчаму фарсу, не - лукашызму, не - беззаконню». Да яго падыходзілі людзі, вялася размова пра паводзіны выбаршчыка ў дзень «выбараў у палату». Віктар пераконваў людзей у тым, што лепшы варыянт - няўдзел у выбарчым фарсе.**

Пікет доўжыўся дзве гадзіны. Віктар Туравец раздаваў улёткі. Міліцыянты чамусьці не звярталі на пікетоўца ніякай увагі.

У аўторак на тым самым месцы Віктар зноў правёў пікет. Гэтым разам ён трымаў плакат са словамі Лукашэнкі, сказанымі ў 1995 годзе: «Я на выбары не пайду - усё роўна падмануць!» і раздаваў улёткі. Але цераз 12 хвілінаў пад'ехала міліцэйская машына, і маёр Падражанец з сяржантам Куцько затрымалі пікетоўца і даставілі ў пастарунак. Пасля складання пратакола маёр Коўшык паведаміў, што справа будзе перададзеная на разгляд у адміністрацыйную камісію райвыканкама. У сваім тлумачэнні Віктар Туравец напісаў: «Для мяне галоўнае - будучыня маіх дзяцей і нашай Беларусі. Таму змагаюся з палітычнай уладай, як магу. Хачу, каб Бацькаўшчына была дэмакратычнай і з законнай уладай».

Віктар Туравец мае намер праводзіць пікеты супраць выбарчага фарсу да канца тыдня.

**Янка Куцэвіч**

## Улада супраць нагляду за выбарамі

**10 кастрычніка ў Ашмянах на Ашмянска-Міцкевіцкім выбарчым участку быў затрыманы міліцыяй прадстаўнік Беларускага Хельсінкскага камітэта па Ашмянскаму раёну Пётр Явідовіч. Затрыманне адбылося ў той час, калі Пётр разам з калегам прыйшоў зарэгістравацца на ўчастак як грамадскі назіральнік.**

Пасля кароткай размовы з Пятром Явідовічам старшыня камісіі М.Гружэўскі выклікаў нарад міліцыі. Прадстаўнікі БХК адвезлі ў аддзяленне міліцыі, дзе міліцыянты прад'явілі яму абвінавачанне ў распаўсюджанні антывыбарчых улётак на мясцовым рынку. Спадар Явідовіч адмовіўся падпісаць пратакол абвінавачвання. Пасля гэтага яго даставілі ў раённую пракуратуру, дзе пракурор В.Бутрым распытваў Пятра пра дзейнасць Хельсінкскага камітэта ў Ашмянах. Праз некаторы час Пятра Явідовіча адпусцілі на волю.

Улада ў чарговы раз паказала - выбары пройдуць адпаведна даўно распрацаванаму сцэнару. Грамадскіх назіральнікаў, якія могуць зафіксаваць ілжывыя вынікі гэтых выбараў, яна баіцца, як агню.

**Іван Паўлёнак**

## Галасаванне па загаду

**28 верасня кіраўнікам прадпрыемстваў, арганізацыяў і ўстановаў Ашмянскага раёна Гарадзенскай вобласці быў разасланы ліст за подпісам старшыні райвыканкама М. Кудыркі, у якім паведамлялася пра неабходнасць падавання ў выканкам звестак наконт мяркуемай колькасці ўдзельнікаў датэрміновага галасавання - сябраў працоўных калектываў.**

«У адпаведнасці з артыкулам 53 Выбарчага кодэкса Рэспублікі Беларусь, з 10 па 14 кастрычніка праводзіцца датэрміновае галасаванне па выбарах дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу РБ...У сувязі з гэтым, неабходна падаць...у выканкам звесткі адносна мяркуемага ўдзелу сябраў вашага працоўнага калектыву ў датэрміновым галасаванні».

**Ул. інф.**

# Сёння - Мілошавіч, заўтра - Лука!

**8 кастрычніка Гродна, адзіны з усіх гарадоў Беларусі, прыняў менскую эстафету Маршу Свабоды. Па задуме арганізатараў, сваім выхадам на вуліцы горада гарадзенцы павінны былі пацвердзіць апазіцыйны статус Гродна і выказаць напярэдадні 15 кастрычніка свой байкот «выбарам у палатку». Несанкцыянаваны ўладамі гарадзенскі марш, на які з'ехаліся прадстаўнікі АБСЕ, рэпарцёры з ГРТ, НТВ, АТН, польскага радыё, шэрагу беларускіх газетаў стаў сапраўды магутнай акцыяй. Дэманстранты мірна, але не ціха прайшлі па галоўных вуліцах горада - Савецкай і Маркса, - і не сустрэлі аніякага супраціву з боку міліцыі, за што апошняя была ўзнагароджана шматсоценным «Дзякуй!».**






Пасля акцыі «расшаркванне» міліцыі перад Маршам каментавалася аднагалосна: «міліцыянты папросту разбегліся пад нашым націскам»; «міліцыя разгубленая, яна не ведае, што рабіць пасля падзеяў у Югаславіі». Аднак факты сведчаць пра тое, што міліцыя рыхтавалася да акцыі, і была гатовая да любога сцэнару, нават да разгону дэманстрацыі. Ужо ў 11 гадзін раніцы, за гадзіну да пачатку мерапрыемства, нам з калегам адкрылася наступная карціна. У раёне Кастрычніцкага і Ленінскага РАУС знаходзілася каля 20 міліцэйскіх машынаў. Яшчэ з дзесятак стаялі на плошчы і вуліцы Савецкай, вуліцы Дамініканскай, вакол плошчы Леніна. Цэнтр горада зіхацеў ад плямістай блакітнай формы, а палкоўнік Васілеўскі ўласна спраўджваў гатоўнасць асноўных міліцэйскіх нарадаў.

У 11.15 на стаянку машынаў, за універмагам, пад'ехаў вялікі міліцэйскі грузавік, шчыльна завешаны брызентам. Праз некалькі хвілінаў брызент адгарнуўся - і з задняга борту машыны дэманстратыва выставілі міліцэйскі шчыт, а з другога боку высунулася загіпсаваная рука міліцыянта і скіравала ў наш бок тупы ангельскі жэст з аднаго пальца. Разганяць апазіцыю ўзялі нават калекаў!





У гэты ж час у кустах за Палацам тэкстыльшчыкаў пад гучнае «Первая рота, стройся!» выстраіліся каля 40 міліцыянтаў у касках і з дубінкамі. На шчасце, выкарыстаць сваё ўменні і ўзбраенне ім не давялося. Кіраўнікі міліцыі ды кіраўнікі кіраўнікоў міліцыі здолелі стрымацца і не махаць дубінкамі перад тэлекамерамі ды гасцямі з АБСЕ.

Гарадзенскі гарвыканкам у чарговы раз пайшоў на правакацыю - забараніў лідарам дэмакратычнай апазіцыі правядзенне шэсця і выкінуў мітынг у Новы парк. Апазіцыя адказала катэгарычным «Не!» і заявіла: «Трэба паказаць, хто ў горадзе гаспадар»! Некалькі дзесяткаў тысяч улётак і налепак, раскіданых у паштовыя скрыні і расклееных па ўсім горадзе, заклікалі гарадзенцаў на плошчу Леніна.

«Мы, выбаршчыкі незалежнай Беларусі, вырашылі сабрацца на гэтай плошчы, каб прыняць рашэнне адносна выбарчага фарсу, які хоча правесці ўлада на нашай зямлі. Я, Дзмітрый Іваноўскі, у гэтым фарсе ўдзельнічаць НЕ буду!» - пачаў несанкцыянаваны мітынг вядомы гарадзенскі мастак і сябра БНФ. Пра свой няўдзел у лукашэнкаўскіх «выбарах» заяўляў кожны, хто падыходзіў выступаць да мегафону. Бліжэй да сярэдзіны мітынгу колькасць удзельнікаў дасягнула 1,5 тысячы чалавек.

Старшыня БНФ «Адраджэньне» Вінцук Вячорка, выступленне якога стала кульмінацыяй мітынгу, сказаў літаральна наступнае: «Дарагія гарадзенцы, нашчадкі Давыда Гарадзенскага, Вітаўта, Сцяпана Батуры і Каліноўскага! У кожным з Вас жыве тая прага да свабоды, якая сёньня дазволіла Вам, насуперак запалохваньням і хлусні й менскіх, і гарадзенскіх уладаў, прыйсці сюды і сказаць адзін аднаму слова Праўды - «Нам ня трэба фарс, нам трэба свабода!». У нас перад вачыма - прыклад падапошняй дыктатуры ў Цэнтральна-Ўсходняй Эўропе. Мы бачым, як Лукашэнка застаецца самотным сяродак дыктатараў былых камуністычных краінаў. Мы скажам па-беларуску: «Сёньня - Мілошавіч, заўтра - Лука!»; мы скажам па-сербску: «Banas Miloshavich, sutra Luka!»; мы скажам па-ангельску: «Today Miloshavich, tomorrow Luka!» I нас пачуе сьвет!».

Слова бралі актывісты БНФ Мікола Воран, Ірына Данілоўская, старшыня «Гродзенскай ініцыятывы» Сямён Домаш, Тацяна Маліноўская, адзін з кіраўнікоў АГП Аляксандр Добравольскі, маладафронтавец Вадзім Саранчукоў.

Найбольшай эмацыйнасцю і своеасаблівым радыкалізмам вылучаліся выступленні моладзі. Лідарка «Маладой Грамады» Святлана Нех увабрала ў прамову ўсю сваю моц: «Мы нарадзіліся вольнымі і не дамо пазбавіць нас магчымасці вырашаць самім свой лёс. Гэтай магчымасці былі пазбаўленыя нашыя бацькі, таму мы кажам гэтаму фарсу - НЕ. Мы кажам: ГАНЬБА таму, хто прыпушае нас ісці на гэтыя выбары»!

Наступным выступаў малады сябра БСДГ Эдуард Дзьмухоўскі: «...Хам кіруе нашай краінай. У нас шляхетны горад. Тое, што з намі робяць - гэта чарговы сцэнар у тэатры, дзе адзіны рэжысёр. Давайце скажам - НЕ хамству ў гэтай краіне. Хай яны самі ідуць галасаваць за сябе. Я не ведаю гэтых людзей. Яны з Растова, Калымы, большасць з іх - вайскоўцы. Яны валачыліся па ўсёй гэтай былой краіне, нічога не рабілі і жылі за наш кошт. Зараз яны ізноў хочуць кіраваць намі. Скажам НЕ ім усім»!

Мітынг скончыўся прапановай сябра Маладога Фронту аднесці сцягі Беларусі ды Еўрасаюза ва Управу Фронту - і тысячны мітынг рушыў па Савецкай. Лозунгі «Сёньня - Мілошавіч, заўтра - Лука», «Байкот!», «Незалежнасць» уцягвалі ў шэсце новых людзей - ішоў Марш Свабоды, які паказаў жаданне разумных людзей не ламаць сваё жыццё і не ўдзельнічаць у псеўдавыбарах 15 кастрычніка.

**Павал Мажэйка**

 

# Праз сто гадоў у Беларусі не застанецца людзей?

Жыццё жанчыны, маці, асабліва шматдзетнай маці ў нашым грамадстве становіцца проста невыносным. Нягледзячы на высокія словы з усіх трыбунаў адносна клопату пра сям'ю ў нас галадаюць дзеці. Напярэдадні Дня Маці прапануем размову са шматдзетнай маці, кіраўніцай Гарадзенскай жаночай арганізацыі «Крыніца міласэрнасці» Марынай Самаіл. «Крыніца міласэрнасці» цікавая яшчэ і тым, што гэта пакуль адзіная жаночая гарадская арганізацыя.

***- Афіцыйна вы зарэгістраваныя і працуеце толькі з сакавіка. Як вы рэальна дапамагаеце сем'ям, жанчынам?***

- Мы аб'ядналі каля 60-ці жанчын, галоўным чынам шматдзетных матуляў, маці-адзіночак, малазабяспечаных мацярок. Што мы можам зрабіць для іх рэальна - гэта проста сабраць па заводах і прадпрыемствах, у прыватных прадпрымальнікаў рэчы, адзенне, цацкі, прадукты і раздаць іх людзям. Пакуль што мы абмяжоўваемся дабрачыннай дзейнасцю і аказаннем бясплатнай юрыдычнай дапамогі. Але ўжо цяпер бачым, што нават гэты мізэр неабходны. Цяпер нават той кавалак хлеба і 100 грамаў каўбасы выклікае слёзы ўдзячнасці, бо дзеці і маці ў малазабяспечаных сем'ях амаль галадаюць. Я неяк вылічыла, што можна купіць на дзяржаўную дапамогу на дзіця, на тыя тры тысячы. Атрымалася 50 грамаў хлеба і 100 грамаў малака ў дзень...

***- Як бы Вы ацанілі свае стасункі з гарадскімі ўладамі?***

- Мы непалітызаваная арганізацыя, але ўлады нас чамусьці баяцца, усяляк перашкаджаюць нашай рабоце. Перад тым, як дамагчыся юрыдычнага адрасу пад наш офіс, мы былі вымушаны ў траўні аб'явіць галадоўку. Цяпер нам неабходна нейкае памяшканне пад склад, дзе можна было б захоўваць ахвяраванні. Мы да гэтай пары чакаем прыёму ў Пашкевіча - але складваецца ўражанне, што ён нас проста пазбягае. Мне дадому тэлефанавалі нават з пагрозамі атрымаць кулю ў лоб. Вось так наша дзяржава клапоціцца пра шматдзетныя сем'і.

***- Аднак наўрад ці гэта дастатковая мера - раздача рэчаў і прадуктаў малазабяспечаным. Ахвяраванні некалі скончацца. Што далей?***

- Наша першая задача - дапамагчы неяк пракарміцца ў нашай вялікай і несправядлівай краіне. Але цяпер у нас у горадзе з'явілася праблема з неабгрунтаваным пазбаўленнем бацькоўскіх правоў. Мы ўпэўненыя, што пазбаўленне бацькоўскіх правоў нікога не выратуе. Звычайна правоў пазбаўляюць з-за п'янства маці, з-за бяды дзяцей. Аднак тое самае п'янства - ад безвыходнасці. Дзяржава адвярнулася ад нас, ад шматдзетных сем'яў, назваўшы нас «малазабяспечаным пластом», як на канвеер паставіла. П'янства пачынаецца там, дзе няма чаго есці і няма надзеі. А якая можа быць надзея, калі на любую просьбу мы чуем у адказ ад чыноўніка «Закрый рот, дура, не трэба было столькі раджаць». У мяне ў самой пяцёра дзяцей, і калі я страчу надзею, калі дзяржава і людзі адвернуцца ад мяне - я не даю гарантыі, што і ў маёй сям'і ўсё будзе нармальна. Але якая б ні была маці, забіраць дзяцей нельга. Вам любое дзіця скажа, што няхай мама б'е, чым чужая цётка. У адной нашай сям'і дзяўчынка была год ў інтэрнаце - і збегла, бо там страшна б'юць, галавой аб сценку. Цяпер яна збірае мерзлую бульбу на полі, а ў інтэрнат вяртацца не хоча. Такім дзецям мы дапамагаем, як можам - прадуктамі, адзеннем. Трэба прыходзіць у кожную сям'ю. Бываюць страшныя па сваёй безвыходнасці сітуацыі. У нас ёсць маладая маці-адзіночка, якая жыве ў «абшчазе» з двума дзецьмі ў пакоі, дзе няма мэблі, халадзільніка. Нейкія лыжкі, шафу ўзяла на пракат. Скончыцца тэрмін пракату - не будзе куды пакласці дзяцей спаць. І нікому да гэтых бедаў справы няма.

***- Вы балатаваліся кандыдатам у Палату прадстаўнікоў?***

- Так, але мяне не зарэгістравалі. Я ішла ў палітыку таму, што акрамя мяне ніхто пра нашае жабрацтва ведаць не жадае. Мая мэта - каб грамадства прызнала шматдзетную маці, клапацілася пра яе, шанавала. Хаця б «дзякуй» сказалі, што я даю краіне дзяцей, будучых грамадзянаў. Калі мы да гэтага не прыйдзем - у краіне будзе грамадзянскі выбух. Ужо цяпер у нас працуе закон прыроды, паводле якога выжывае самы моцны. А самымі слабымі аказваюцца жанчыны і дзеці.

Даведка: адпаведна дадзеным статыстыкі, дзеля замяшчэння пакаленняў у Беларусі кожная жанчына ў дзетародным узросце павінна нарадзіць па 2,15 дзяцей. У адваротным выпадку праз сто гадоў у краіне не застанецца людзей. Цяпер у сярэднестатыстычнай сям'і нараджаецца 1,4 дзіцяці.

**Гутарку вяла Алена Сіневіч**

УСЕ НА ШЫРОКАЕ ПОЛЕ ВЫБАРАЎ!

# Менты «блюдуць» акцызную марку

**Вельмі часта самыя розныя міліцэйскія чыны незадаволеным тонам скардзяцца на сродкі масавай інфармацыі, пераважна незалежныя. Маўляў, пішаце пра міліцыю абы-што і не заўважаеце самых сапраўдных геройскіх учынкаў.**

Выпраўляемся і выстаўляем на суд чытачам адзін «геройскі» ўчынак.

Жыхар Гродна Уладзімір Т. за свае 49 гадоў дагарбаціўся на працы да другой ступені інваліднасці. І ўвесь час добрасумленна плаціў падаткі на ўтрыманне, як ён лічыў, добрасумленнай міліцыі. У гэты панядзелак спадар Уладзімір змяніў сваё ўяўленне пра міліцыю.

Напярэдадні ён планаваў легчы ў бальніцу - падлячыць хворае сэрца. 9 кастрычніка ўвечары, вяртаючыся разам з суседам ад сястры, Уладзімір заскочыў на аўтавакзал, каб набыць цыгарэтаў «у бабулек». Набываць цыгарэты такім чынам імкнуцца цяпер усе - так значна танней. За пяць пачкаў «Саюз-Апалона» і два «LM» спадар Уладзімір аддаў каля трох тысячаў. Для ягонай пенсіі па інваліднасці ў 25 тысячаў гэта значная сума, але з пустымі рукамі класціся сёння ў бальніцу не варта.

Зрабіўшы закупы, Уладзімір скіраваўся дахаты, на вуліцу Брыкеля. Непадалёк ад свайго дома ён прыпыніўся на размову са знаёмым. На сваю бяду, Уладзімір Т. гэтым вечарам патрапіў на вочы лейтэнанту міліцыі Паўлу Саўко. Лейтэнант убачыў набітыя кішэні курткі Уладзіміра і абшукаў яго. Знайшоўшы цыгарэты, лейтэнант Саўко спытаў: «Што гэта?» Паводле словаў Уладзіміра, ён адказаў шчыра: «Цыгарэты». Таксама спадар Т. патлумачыў міліцыянту, што набыў іх «у бабулек» на аўтавакзале (наіўны мужчына, ведаючы нашу міліцыю, яму трэба было сказаць: «Знайшоў і нясу ў міліцэйскі пастарунак»). Адказ гэты лейтэнанта не задаволіў і ён папрасіў Уладзіміра прайсці з ім ва ўчастак міліцыі. Уладзімір не супраціўляўся.

У аддзяленні міліцыі «Дзевятоўка» лейтэнант Саўко у прысутнасці двух панятых, калег-міліцыянтаў, склаў пратакол канфіскавання, дзе пазначыў, што забраў у грамадзяніна Т. сем пачкаў цыгарэтаў, бо яны не мелі акцызнай маркі.

Паводле словаў Уладзіміра, над дзеяннямі лейтэнанта смяяліся нават ягоныя калегі. Аднак саму Уладзіміру было не да смеху. Яго, прыстойнага грамадзяніна, абшуквала міліцыя на вачах суседзяў. Да таго ж, немаведама за што адабрала набытыя за свае грошы цыгарэты.

Уладзімір адмовіўся падпісваць пратакол канфіскавання, а пратакол абвінавачвання нават не чытаў - разбалелася хворае сэрца.

Усю ноч жонка адпойвала Уладзіміра лекамі і прасіла: «толькі не звязвайся з міліцыяй».

У аўторак раніцай, 10 кастрычніка, Уладзімір прайшоў электракардыяграму ў кардыялагічным цэнтры, што па вуліцы Ватуціна. Вось вынятка: «ішэмічная хвароба сэрца, стэнакардыя, кардыясклероз, атэрасклероз».

Пасля гэтага Уладзімір пайшоў да начальніка аддзялення міліцыі «Дзевятоўка» з надзеяй вырашыць, як яму падавалася, непаразуменне. Аднак, паводле словаў Уладзіміра, «капітан накрычаў на мяне і пагражаў засыпаць мільённымі штрафамі».

У сераду з раніцы Уладзімір патэлефанаваў ў рэдакцыю і паведаміў, што ў аўторак яго пакаралі ў адміністрацыйным парадку. Паводле ягоных словаў, міліцыянты не далі яму аніякіх тлумачэнняў і абвінавацілі ў незразумелым «захаванні». Але ў захаванні чаго, яму не патлумачылі. Замест копіі пратакола Уладзімір Т. атрымаў на рукі квіток на аплату штрафа - 3600 рублёў. Як паведаміў ПАГОНІ сам лейтэнант Саўко, ён папросту выконваў указ нумар 45 А.Лукашэнкі.

Людзі, будзьце пільнымі! Міліцыя, карыстаючыся такога кшталту ўказамі, можа абвінаваціць вас у тым, што носіце «няправільны» абутак, ясце «няправільную» каўбасу, бо гэта значна лягчэй, чым хапаць сапраўдных злачынцаў.

**Іван Паўлёнак**

**Ад рэдакцыі:** Літаральна перад падпісаннем ПАГОНІ у друк спадар Т. зноў патэлефанаваў у рэдакцыю і папрасіў не ставіць матэрыял пра яго. Нас здзівіла ягоная аргументацыя. Выявілася, што не друкаваць матэрыял «параіў» ягоны доктар. Мы зразумелі, што дарадца нашага героя кіраваўся пры гэтым зусім не меркаваннямі медычнага характару.

Як бачна, нават лекары разумеюць, у якой краіне мы жывем! Страх перад чалавекам «с ружьём», страх перад начальствам даўно стаў лейтматывам паводзінаў беларуса. Менавіта таму мы і ставім матэрыял у нумар, папярэдне змяніўшы прозвішча зацікаўленай асобы. Калі з беззаконнем не змагацца, то на месцы спадара Т. заўтра можа апынуцца кожны з нас!

# Марш у РАУС

**Увечары, 7 кастрычніка, гарадзенская апазіцыя рыхтавалася да Маршу Свабоды, які меўся адбыцца на наступны дзень. Не сядзелі без справы ў гэты час і мясцовыя ахоўнікі правапарадку. У гэтым упэўніліся пяцёра маладых людзей, якім давялося рэшту вечару правесці ў Ленінскім РАУС.**

Старшыня Маладога Фронту, Андрэй Мялешка, як заўсёды, а палове на дзявятую зачыняе дзьверы будынку, дзе месьціцца Гарадзенская ўправа БНФ і рэдакцыя газэты ПАГОНЯ. Яшчэ два хлопцы і дзьве дзяўчыны стаяць побач і ўголас абмяркоўваюць пляны на вечар. У гэты час, пачуўшы беларускую гамонку, запавольваюць крок тры салдаты тэрміновай службы, якія патрулявалі вуліцу К.Маркса.

- А гэта што яшчэ такое? - чалавек у плямістa-сінім вырывае з рук дзяўчыны налепку «Марш Свабоды». - Маладыя людзі, вам давядзецца прайсьці з намі ў міліцэйскі пастарунак.

- На якой падставе? За расклейку ўлётак? Мы ж нічога не клеілі!!! Ды й акцыя дазволеная ўладамі? Як гэта, там разьбяруцца? Мы журналісты, мы будзем скардзіцца!

- Плявацьь я хацеў на вашыя скаргі, я ў войску служу, а не ў міліцыі, мне прэміі за гэта ня плоцяць, - старшыня нараду Іван Навіцкі дакладае па рацыі:

- ...5 чалавек...расклейвалі ўлёткі... Падганіце машыну!

- Мы не паедзем - нас пяцёра, а ў машыну можна толькі чатыры чалавекі пасадзіць,- пярэчыць дасьведчаны студэнт-юрыст. Не, не паедзем - моладзь сядае на кукішкі проста на тратуары. - Падганяйце дзьве машыны!

Замест двух «козьлікаў» падбягаюць яшчэ два хлопчыкі ў плямістa-сінім:

- Зая...сь, это ещё б..я кто такие? - пацікавіўся адзін зь іх. - Што б..я, па беларуску базарят? Пі..ц, я ж тожа беларус, вашу мать! Ды ё.., тяни их на х.. в РОВД!

- Дык што, вы адмаўляецеся прайсьці з намі? - «старшой» шматзначна пастуквае гумовай дубінкай па далоні.

Не, мы не адмаўляемся. На вуліцы Кірава нарад прымусіў усіх перайсьці дарогу ў неналежным месцы, перад безупынный плынью машынаў.

У РАУС сустрэлі незадаволена. Маўляў, спаць хочацца, а тут салдаты «панапрыводзілі». Пры даглядзе заплечнікаў і кішэняў знаходзяцца тры (!) налепкі, якія адразу ж канфіскуюцца. Вось і ўсе доказы!

У пакой прыводзяць чатырох хлопцаў - нанюхаліся клею. Трымаюцца ўпэўнена, трохі нахабна. Па размове чуваць, што з участковым бачацца яны не ўпершыню. Самаму малому таксікаману гадоў восем, старэйшы вучыцца на другім курсе ПТВ. Сьледам улятае раз'юшаная матуля аднаго зь іх, кідаецца з кулакамі на сына:

- Я табе ў хаце, сволач, гэты пакет на галаву надзену. Будзеш дыхаць, пакуль не падохнеш!

Да затрыманых «за налепкі» падыходзіць нейкі чалавек у цывільным, па ўсім відаць, ужо на падпітку. Доўга задае незразумелыя пытаньні, нешта кажа пра агульную мову і дапытваецца, што калі б раптам усе яны сустрэліся ў гарах ці ў Грузіі, як бы яны размаўлялі: па ангельску ці па-польску?

Тлумачальныя запіскі малады лейтэнант складае марудна - з перапынкамі на нейкі дэтэктыў па РТР:

- Не, ты зірні, як ён яе рэжа - як па металу! Як быццам у яе ў жываце не вантробы, а цьвікі!

А палове на дванаццатую вечара хлопцаў і дзяўчат нарэшце выпускаюць. Пасьля душнага і пракуранага памяшканьня ў нос б'е сьвежае паветра. А ў вочы кідаецца бел-чырвона-белая налепка на ўваходзе ў РАУС. Марш Свабоды пачаўся.

**Юлія Дарашкевіч**

# Дзіця спаліла хату

**Сярод шматлікіх прычынаў пажараў ёсць і такая - свавольства дзяцей з агнём. Толькі ў Ленінскім раёне горада Гродна з-за гэтага здарылася 14 пажараў, страта ад якіх склала 610703 рублёў.**

У жніўні ў Ленінскім раёне здарылася два пажары па віне дзяцей. Вось, напрыклад, як здарыўся пажар у кватэры жылога дома N17, што па вуліцы К.Цэткін. У 7 гадзін 30 хвілінаў гаспадыня кватэры прачнулася ад смуроду. Выявілася, што яе 8-гадовы ўнук запаліў свечку. Калі гарачы парафін апёк руку хлопчыка, той выпусціў свечку. Запаленая, яна ўпала на вопратку, што ляжала на падлозе. Адзенне загарэлася. У выніку - матэрыяльная страта склала 100 тысяч рублёў.

Здавалася б, дзіця застаецца без нагляду ўсяго на пару хвілінаў, аднак і гэтага бывае дастаткова, каб здарылася непапраўнае.

**Людміла Лятко,**
**галоўны інспектар ІДПН**

# Моладзь не ідзе на выбары

**Гарадзенскі Малады Фронт пачаў распаўсюджанне ў Гродне ўлётак з лозунгам «Моладзь ня пойдзе на выбары!». Акцыя адбываецца ў шэрагу шматлікіх мерапрыемстваў агульнакраёвага «Байкота-2000».**

«Ува ўсім сьвеце адбываюцца выбары: на іх выбіраюць рэальную ўладу. Сёньня ў РБ - выбары: тут выбраюць толькі хлусьню й падман. Наш Малады Фронт - супраць такіх выбараў!»- паведамляецца ва ўлётцы.

**П.М.**

ПУНКТ ГЛЕДЖАННЯ

# Маеш правы - не прасі, а патрабуй!

**Памятаеш, зямляк, што табе абяцалі ў 1996 годзе, калі ўгаворвалі прагаласаваць за «новую» канстытуцыю пад рэдакцыяй А.Лукашэнкі?**

Забыўся, кажаш? Кароткая ў цябе памяць. Дазволь нагадаць: «Калі Вы жадаеце, каб на нашай роднай беларускай зямлі панавалі мір і парадак, каб выканаўчая ўлада здолела, нарэшце, сканцэнтраваць ўсе свае сілы на вырашэнні эканамічных і сацыяльных праблемаў, а кожны з нас мог зарабіць на годнае жыццё, каб у краіне і ў грамадстве вышэй за ўсё шанаваліся чалавечая годнасць, розум, праца, сумленне і прыстойнасць, падтрымайце прэзідэнта на рэферэндуме, сваёй падтрымкай Вы дапаможаце кіраўніку дзяржавы зрабіць усё гэта рэальнасцю».

Вось такія салодкія песні табе спявалі. А ты развесіў вушы, ты заплюшчыў вочы на тое, якім чынам і на што выканаўчая ўлада пад кіраўніцтвам А.Лукашэнкі канцэнтравала свае сілы. Першае, што яна рэальна зрабіла - знішчыла абраны ўсім народам Вярхоўны Савет. Каму ён перашкаджаў? Табе, зямляк? Падумай над гэтым.

Ну і як, зараз ты зарабляеш на годнае жыццё?

Ну і што, пануе на нашай зямлі мір і парадак?

А мо і напраўду ў нас сталі вышэй за ўсё шанаваць чалавечую годнасць?

СПЫТАЙ СЯБЕ І АДКАЖЫ.

І зноў цэлы «палатны хор» спявае табе тую ж песню. Чатыры гады маўчаў, а зараз пачаў гарлапаніць.

Што ім спатрэбілася ад цябе, зямляк?

Чаму гэта яны раптам пра цябе ўзгадалі?

Можа, хочуць з тваёй дапамогаю «...нарэшце, сканцэнтраваць усе свае сілы на вырашэнні эканамічных і сацыяльных праблемаў»? Не толькі сваіх, але і тваіх?

Тады нагадай ім, «пад шатамі» якой канстытуцыі яны жывуць, працуюць і ў крэслах націраюць мазалі на сваіх рабочых органах цела.

Ёсць у той канстытуцыі, за якую ты галасаваў ў Богам праклятым 1996 годзе, цудоўны артыкул N21. Ні ў адной канстытуцыі свету няма такога артыкула! Ты знаёмы з ім? Пазнаёмся: «Забеспячэнне правоў і свабодаў грамадзянаў Рэспублікі Беларусь з'яўляецца вышэйшай мэтаю дзяржавы. Кожны мае права на годны ўзровень жыцця, уключаючы дастатковае харчаванне, адзенне, жыллё і сталае паляпшэнне неабходных для гэтага ўмоваў. Дзяржава гарантуе правы і свабоды грамадзянаў, замацаваныя ў Канстытуцыі, законах і прадугледжаныя міжнароднымі абавязацельствамі дзяржавы».

Вось што табе гарантуе дзяржава - тыя шматлікія тысячы чыноўнікаў, якіх ты корміш, апранаеш і возіш на «мэрсах» ды «вольвах», пачынаючы ад прэзідэнта і завяршаючы самым малодшым з яго «вертыкальшчыкаў». Усе яны павінны ўкалваць на цябе!

Прысядзь, пачухай патыліцу і прыкінь:

- ці маеш ты і твая сям'я дастатковае харчаванне;

- як апрануты ты, твая жонка, твае дзеці, твае бацькі;

- якім чынам выглядаюць твае справы з жыллём;

- ці паляпшаюцца ўвесь час ўмовы твайго жыцця?

ПАДУМАЙ І АДКАЖЫ. Сабе, сваім дзецям, сваім бацькам.

ПАДУМАЙ І СПЫТАЙ. Ці збіраюцца шматлікія тысячы аплочваемых табою чыноўнікаў калінебудзь (і дакладна - калі) выканаць вышэйшую мэту дзяржавы - забяспечваць твае правы?

Чатыры доўгія гады «палатнікі» маўчалі.

Чатыры доўгія гады маўчання яны толькі дружна галасавалі за тое, каб А.Лукашэнка і ягоная «вертыкаль» здолелі «...сканцэнтраваць усе свае сілы...».

НІХТО ІМ НЕ ПЕРАШКАДЖАЎ. Яны цябе накармілі, апранулі, далі жыллё, магчымасць зарабіць на годнае жыццё?

ЯНЫ ЗНОЎ ПНУЦЦА Ў «СЛУГІ НАРОДА». З тваёй дапамогаю, зямляк, яны прагнуць прымасціць свае сядалішчы ў мяккіх крэслах Авальнай залы. І ты дапаможаш ім прапхнуцца да кармушкі, якую ты ж напаўняеш, адрываючы кавалак хлеба ад сябе, ад сваіх дзяцей і бацькоў?

ДАПАМОЖАШ? Пойдзеш галасаваць, зямляк? Што ж, гэта твая асабістая справа, адгаворваць не буду. Вырашай сам.

Што ж дачыць мяне, то я зраблю так, як заявіў адзін усім вядомы грамадзянін у 1995 годзе перад выбарамі новага парламента:

«Я НИ ЗА КОГО НЕ БУДУ ГОЛОСОВАТЬ. НИ ЗА КОГО! ВСЁ РАВНО ОБМАНУТ. ОДНИ УШЛИ СО ЛЬГОТАМИ, ВТОРЫЕ ПРИДУТ - ЛЬГОТЫ ПРИХВАТЯТ».

Цалкам далучаюся і падтрымліваю гэтыя словы, асабліва зараз, у 2000 годзе.

**Адзін Дзесяцімільённы**

# Грамадзянін Асяронак-Курапацкі пра тое, як дзяцей хлусні з БТ адзін сумнавядомы суб'ект «апусціў» да ідэалагічных «пидерасистов»

**Паглядзіце, што «выплыла» ізноў на БТ пасля нядоўгага знікнення ў палонцы белтэлехлусні, нарабіўшы вялікага смуроду на ўсю Беларусь. Значыць, прымаўка «Азаронкі не тонуць» спраўдзілася? «Тайные пружины детей лжи» зноў з нянавісцю ўпіліся ў бок (і без таго пакутуючай ад «пракрустаавага ложа» абяцалкіна) роднай Беларусі. І што дзіўна: можна яшчэ неяк абгрунтаваць азаронкаўскія «петушиные» наскокі на апазіцыю. Ну што зробіш, не біруць яго туды з ваўкай у галаве. Адна дарога - на БТ, якое я назваў бы (пасля прыходу ў яго Чыкіна) тэлекампаніяй «Чы энд Псы».**

Вось у гэтае «Чы энд Псы» і «прыплыў» наш сумнавядомы суб'-ект. Уключаю тэлевізар, слухаю: мянціць языком наш «Курапацкі», і не абы пра што, а пра сэксменшасці, паводле ягоных слоў - пра «пидарасов» (сам такі). Слухаю далей - і не разумею: чаго ён да іх прычапіўся, абражае. Ні ў адной цывілізаванай краіне сэксменшасці не пераследуюцца. Бо гэта такія, як і мы, людзі. Проста так здарылася, што маці-прырода ўдыхнула ў мужчынскае цела жаночую душу. І ўсім пра гэта вядома. Упэўнены, што вельмі добра ведаюць пра гэта і ў кампаніі «Чы энд Псы». Дык навошта ў такім выпадку ім спатрэбілася ў палітычнай праграме, падрыхтаванай спецыяльна для здзеку з апазіцыі, кпіць яшчэ і з гомасэксуалаў? Што за патрэба? Яны, я так разумею, займаюцца «гэтым» з фізіялагічнай патрэбы, у адрозненні ад вас. І вашую нішу ідэалагічных «пидерасистов» займаць не збіраюцца. А таму папу, што выступіў з ганьбаваннем сэксменшасцяў, скажу словамі з Біблііі: «Не судите - да не судимы будете». А ўвогуле, пара вам ужо і пра свае грахі падумаць.

Да прыкладу, вось вам замалёўка. Уключыў тэлевізар - а там стаіць «святая» тройца. У цэнтры - Філарэт, злева - праваслаўны атэіст А.Р., справа - атэіст-камуніст-агітатар Замяталін. Вось гэта «Альянс»! Здаецца мне, гэта і ёсць збачэнства, калі не гэты самы «пидерасизм». Дык навошта паўгадзіны на «Чы энд Псы» здзекаваліся з і без таго Богам пакрыўджаных людзей? Адказ ляжыць на паверхні, без усялякіх «тайных пружин». Уся віна гэтых людзей у тым, што яны адважыліся ісці на дэманстрацыі ў абарону сваіх правоў з бел-чырвона-белымі сцягамі. Вось і ўся палітыка. Уладу напалохаў сцяг. І справы ёй да сэксменшасцяў без сцяга аніякай. А санкцыі ды перадача рыхтаваліся акурат для сэксбольшасці, г.зн. для апазіцыі.

Далібог, калі б замест сэксменшасцяў пусцілі на вуліцу казлоў са сцягамі не колеру «захад на балоце», - вынік быў бы аднолькавы. Па-лі-ты-ка! І ўсе гэтыя азаронкаўскія «тайные пружины» - таксама палітыка ад ідэалагічных «пидерасистов» з тэлеканала «Чы энд Псы». А гэта - дыягназ. Так што, хлопцы з «Чы энд Псы», не надта свавольце там, перасцерагайцеся, бо, чаго добрага яшчэ, заразіцеся на ідэалагічныя пранцы альбо ідэалагічны СНІД - тады вам капец.

Даў параду, а сам думаю - пазнавата. Хіба ад гэтай хваробы засцеражэшся? Прэзерватыў на галаву - гэта занадта. Ды і не дапамажа ён, бо з прэзерватывам на галаве ў прамым эфіры, - гэта ўсё роўна што да «члена» аловак прывязаць. Прывязаць, канешне, можна, але ж карэспандэнтам «член» (у адрозненне ад некаторых тэлевядучых, асабліва Азаронкаў) не стане.

Напрыканцы - некалькі словаў для кіраўніцтва БТ. Калі хочаце, каб БТ глядзелі нармальныя людзі, то падчас трансляцыі перадачаў кшталту «Рэзананс», «Тайные пружины» і г.д. у правым верхнім кутку тэлеэкрана прыпісвайце засцярогу (па аналогіі з перасцярогай на пачках цыгарэтаў) - «Асцярожна: хлусня!».

**З прывітаннем, А.-К.**

**P.S.:** Калі вы інтэрнацыяналісты, дапамажыце членам-карэспандэнтам з Югаславіі. І задумайцеся іншым разам пра свой лёс, калі ласка.

ДЭМІСЕЗОННЫЯ ТЭЗІСЫ ВІКТАРА САФРОНАВА

# Наша мэта... ...не даць маху!

*«Не мяркуй па прачытанаму, рабі высновы па зразумеламу»*
**Пісьменны**



Перад сур'ёзнай размовай зусім не абавязкова пры суразмоўцы выціраць зашмальцаваныя рукі аб валасы, нават, у прыватнасці, аб свае. Зрэшты, сур'ёзныя праблемы варта вырашаць з чыстымі рукамі, халоднай галавою і гарачым сэрцам. Да гэтага ў свой час заклікаў Фелікс Дзяржынскі. Што з тых заклікаў атрымалася - усе мы ведаем, таму не трэба ганьбаваць уладу і прэзідэнта. Цалкам магчыма, што да масавых забойстваў на афрыканскім кантыненце яны дачынення не маюць, а рэлігійныя секты Муна, Аум-Сенрыке, Вуду ды іншыя - не іхніх рук справа. Хаця гэта толькі здагадка. А прэзідэнт у нас добры, у нас народ кепскі, бо не разумее свайго шчасця з такім прэзідэнтам.

А шчасце з усіх існуючых яго відаў і разнастайнасцяў трэба правільна і, канешне, перыядычна выбіраць. Для гэтага варта спярша выбраць галоўнага. Мама дарагая - а з каго? Як некалі казаў класік, «настоящих буйных мало - вот и нету вожаков...». Зноў жа 2 ліпеня гэтага года Кангрэс дэмакратычных сілаў забараніў мне ўдзельнічаць у падобнага кшталту мерапрыемствах. Таму пасля апрыходаванне гэтай галаваломкі па-беларуску хутка і без стралянiны ў столь, нам па прыкладу суседзяў належала б падшукаць нешта з-за мяжы. Вунь літоўцы выклікалі да сябе іншаземца, хутка пабраталіся з ім, і ён, на ўзаемнае шчасце, прызнаў іх за сваіх. Зараз жывуць і нацешыцца не могуць. Тыя ж латышы здолелі. У нас з гэтым праблемаў крыху болей. Нам бы выбраць у тое, што падчас антыканстытуцыйнага перавароту было акрэслена як Палата прадстаўнікоў.

А яшчэ напрыканцы 1996 года ўсё так добра і дэмакратычна развівалася, усе сталі братамі, пачалі скандаваць крыўдныя рэжыму лозунгі. Пад гэта можна было мець высакародны профіль непахіснага змагара супраць супастата. І ўсе, не зважаючы на рэпрэсіі з боку ўзвар'яванай улады, былі дружныя і адчайна вясёлымі. А вось праверку часам шмат каму вытрымаць не ўдалося. І ўсе гэтыя словы пра нелегітымнасць рэжыму, непрызнанне вынікаў ілжэрэферэндума цывілізаваным светам не даюць магчымасці пакрасавацца бліскучым значком перад тэлекамерай. Няма мажлівасці і пазмагацца за народнае шчасце ў розных іншых сферах, з добрым акладам ды іншымі прывілеямі і недатыкальнасцямі.

Нястомны даследчык уплыву СМІ на розум - за розум высвятліў, што шмат яшчэ туалетнай паперы будзе адматана з рулону, перш як рабская амбіцыёзная прырода пакіне паклене халопаў, што мараць любымі спосабамі рэалізаваць запаветы бацькоў - «из грязи»...у такі ж самы бруд («в князи» - язык не паварочваецца, бо твары ў гэтых новаспечаных «князёў» далёкія ад арыстакратызму) альбо інакш - быць крыху вышэй за іншых, трохі болей наперадзе за астатніх, г.зн. - крыху раўней за роўных.

Гэта ж колькі разоў ужо тлумачылі ды пераконвалі, што праблема дэпутацтва ў Палаце прадстаўнікоў - з-за поўнай бессэнсоўнасці існавання дадзенага органа ўлады - яйка выедзенага не вартая, а тым болей - яго шкарлупіны. Станавіцца для рэжыму анучай, аб якую ён будзе выціраць ногі, - не самая дабратворная ініцыятыва для тых, хто яшчэ нядаўна называўся непрымірымымі змагарамі з рэжымам. Канешне, я не маю на ўвазе, усю армаду непатапляльных браняносцаў апазіцыі, а толькі невялікую частку разлезлікаў і плюгаўцаў, што абляпілі яе дно. Тых, хто не плаціў страшэнных штрафаў, каго не катавалі і не зневажалі ў засценках рэжыму, хто не быў абылганы і ашальмаваны ў газетах і з тэлевізійнага экрана, не праводзіў з небяспекай для жыцця шматдзённыя галадоўкі пратэсту. Менавіта гэтыя чалавечы матэрыял, заходзячыся ад віскату і піску, адчуваючы наперад халяўную жратву, тоўпіцца ў перадвыбарнага карыта ў чаканні старту. Нават той, хто, запэцкаўшыся, усё ж здолее лічыць сябе пераможцам, не зможа быць увянчаны лаўровым вянком трыумфатара-алімпійца. У выніку яму перападзе толькі жменька бісеру, ну і канешне, некалькі апельсінаў, каб было чым займацца на лукашэнкаўскім канстытуцыйным полі.

Давайце дамовімся, хаця б на час дзеяння сёлетняга балагана, наконт мараторыя на ўзаемнае каханне. Бо, як правіла, бязладны выбар партнёраў у каханні абумоўлівае безнадзейныя вынікі - і ніякія антысептычныя сродкі ды засцерагальныя чахольчыкі не выратоўваюць.

Таму сёння застаецца актуальным лозунг «Наша мэта - (не, не камунізм), наша мэта - не памыліцца з выбарам мэты» і ўвесь час памятаць пра асабістую адказнасць кожнага за тое, што адбываецца ў жыцці нашай краіны.

**P.S.: Удзел у перадвыбарнай вакханаліі Міхаіла Чыгіра, Валерыя Шчукіна і яшчэ некалькіх чалавек я, безумоўна, падтрымліваю. Бо калі ім усё ж дазволяць стаць дэпутатамі гэтай бессэнсоўнай таўкатні, гэта будзе хаця і падманлівай, але ўсё-ткі надзеяй на нейкую абароненасць ад далейшых крымінальных праследаў.**





# Выбары ў парламент на Гарадзеншчыне ў 1920-х гадах

**Усенародныя выбары вышэйшай дзяржаўнай улады з'яўляюцца важнейшай рысай сучаснага дэмакратычнага грамадства. На Гарадзеншчыне гэты палітычны інстытут мае адносна нядоўгую, але дастаткова цікавую гісторыю. Упершыню падобныя выбары адбыліся на беларускіх землях на пачатку ХХ стагоддзя. У час рэвалюцыі 1905-1907 гадоў царскае самаўладдзе абвесціла пра ўтварэнне Дзяржаўнай Думы Расейскай імперыі. Праўда, выбары ў Думу нельга назваць усеагульнымі, свабоднымі і дэмакратычнымі. існаваў маёмасны цэнз, які надаваў вялікія перавагі буйным абшарнікам. Апроч таго, выбаршчыкі-землеўладальнікі на беларускіх землях былі падзелены паводле веравызнання на дзве курыі - рускую і польскую. Ды і сама Дзяржаўная Дума не з'яўлялася сапраўдным заканадаўчым органам, а мела фактычна толькі дарадчыя функцыі. Тым не менш, насельніцтва Беларусі атрымала першы досвед удзелу ў выбарах цэнтральных органаў улады.**

Пасля першай сусветнай вайны і рэвалюцыі Гарадзеншчына, як вядома, увайшла ў склад новаўтворанай польскай дзяржавы - II Рэчы Паспалітай. Галоўнымі дзяржаўнымі ўстановамі, сябры якіх абіраліся насельніцтвам, у гэтай дзяржаве былі Сенат і Сейм, дзве палаты, што складалі парламент краіны. Першыя ўсеагульныя выбары ў польскі парламент адбыліся ў 1922 годзе. Гэтыя выбары праходзілі ў вельмі няпростай палітычнай сітуацыі. Польскі ўрад у сваёй унутранай палітыцы мала лічыўся з інтарэсамі няпольскіх народаў, што выклікала адпаведную рэакцыю. Заходняя Беларусь была ахоплена партызанскай вайной. Усяго ў некалькіх дзесятках кіламетраў на паўночны ўсход ад Гародні, на тэрыторыі старажытнай Бярштаўскай пушчы знаходзіўся раён актыўнай дзейнасці сумеснай беларуска-літоўскай партызанкі, мэтай якой было адарванне гэтага краю ад Польшчы і ўтварэнне незалежнай беларускай дзяржавы. Аднак шанцаў на поспех у партызанскай барацьбе з рэгулярным польскім войскам практычна не было. Гэта добра разумелі многія беларускія дзеячы. Таму яны разглядалі выбары ў парламент II Рэчы Паспалітай як сродак легальнай палітычнай барацьбы, вынікам якой магло стаць здабыццё аўтаноміі для беларускіх земляў.

Адпаведна тагачаснаму адміністрацыйнаму падзелу, Гарадзенскі павет уваходзіў у склад Беластоцкага ваяводства. У выбарах у Сенат яно з'яўлялася адной выбарчай акругай, у якой выбіраліся чатыры сенатары. Падчас выбараў у Сейм гэтае ваяводства дзялілася на чатыры акругі. Гарадзенскі павет разам з Сувальскім, Сейненскім і Аўгустоўскім уваходзіў у акругу №6 з сядзібай у Гародні. Да Гарадзенскага павета належалі наступныя мястэчкі і вялікія вёскі: Азёры, Берастаўіца, Бершты, Волпа, Галынка, Гожа, Горніца, Гудзевічы, Друзгенікі, Дубна, Жытомля, Індура, Крынкі, Крушыняны, Марцінканцы, Масты, Парэчча, Ротніца, Скідаль. У верасні 1922 года ў Гародні быў утвораны Беларускі выбарчы камітэт, у склад якога ўвайшлі Баран, Федарук, Сініла ды іншыя вядомыя беларусы. 5 верасня тут адбыўся з'езд прадстаўнікоў акруговых і павятовых беларускіх выбарчых камітэтаў з Гарадзенскай, Беластоцкай і Астроўскай акруг, на якім была прынята пастанова далучыцца да Беларускага Цэнтральнага Выбарчага Камітэта ў Вільні і весці працу супольна з ім. У Гарадзенскім павеце беларускія выбарчыя камітэты былі заснаваныя ў вёсках: Ляткі, Стругі, Алекшыцы, Берастаўіца, Кавалі, Ярмолічы, Жыдомля, Верцялішкі, Бершты, Гарковічы, Дубна, Баранава, Лаша, Лазы і ў мястэчку Скідаль. Беларусы пастанавілі ісці на выбары па спісу нацыянальных меншасцяў (№16). У Гарадзенскай акрузе першым кандыдатам па гэтаму спісу стаў Сяргей Баран, адзін з самых актыўных і дзейных беларускіх дзеячоў, сапраўдны патрыёт сваёй Бацькаўшчыны. Пятае месца ў спісу №16 па Гарадзенскай акрузе пасля расіянаў і яўрэяў заняў таксама беларус Аляксандр Сініла, які паходзіў з вёскі Бершты.

У выніку выбараў, якія адбыліся 5 (сейм) і 22 (сенат) лістапада 1922 года, у парламент прайшлі 11 беларускіх амбасадараў, у тым ліку Сяргей Баран па Гарадзенскай акрузе. На спісак №16 у Гарадзенскім павеце прагаласавала падчас выбараў у сейм 26732 чалавек, а падчас сенацкіх выбараў - 10541. Такія вынікі занепакоілі польскія ўлады, але беларускімі дзеячамі яны былі ўспрынятыя як параза. Увогуле вынікі выбараў у сейм выглядалі наступным чынам: №1 (Польская народная партыя) - 21507, №2 (Польская сацыялістычная партыя) - 2892, №3 («Вызваленне» і «Народная Лявіца) - 12566, №4 (Агульнажыдоўскі рабочы звяз) - 500, №5 (Звяз пралетарыяту горада і вёскі) - 4425, №5 (Нацыянальная рабочая партыя) - 1125, №8 (Хрысціянскі звяз нацыянальнага адзінства) - 7698, №10 (Нацыянальна-Дзяржаўная унія) - 680, №12 (Польскі цэнтр) - 3425, №20 (Яўрэйскі нацыянальна-дэмакратычны блок) - 111, №23 (Народная партыя працы) - 155, №18 (Звяз вайсковых інвалідаў) - 271. Вынікі выбараў 1922 года па асобных выбарчых участках пададзеныя ў табліцы.

У польскім парламенце беларускія прадстаўнікі арганізавалі Беларускі пасольскі клуб, старшынём якога стаў Браніслаў Тарашкевіч, а ягонымі намеснікамі - Сяргей Баран і ксёндз Адам Станкевіч. Галоўнай задачай клуба з'яўлялася абарона нацыянальных правоў беларускага народа. Вельмі актыўна працаваў амбасадар сейма ад Гарадзеншчыны Сяргей Баран, які, аднак, ужо ў 1923 годзе быў арыштаваны польскімі ўладамі і кінуты ў турму паводле абвінавачвання ў антыдзяржаўнай дзейнасці. Беларускія парламентарыі адыгралі вялікую ролю ў арганізацыі Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады, гурткі якой былі заснаваныя амаль у кожнай вёсцы. Аднак радыкалізацыя настрояў у беларускім грамадстве прывяла да разгрому Грамады польскімі ўладамі на пачатку 1927 года. У Вільні быў распачаты паказальны судовы працэс над найбольш актыўнымі грамадоўцамі.

Беларускія нацыянальныя дзеячы, якія пазбеглі турэмнага пакарання пасля разгрому Грамады, спрабавалі арганізаваць удзел у выбарах 1928 года. Былыя «грамадоўцы» выставілі спіс Змагання за інтарэсы Сялянаў і Работнікаў і яму падобныя, каб пазбегнуць адмены акруговымі выбарчымі камісіямі. Тым не менш, многія беларускія спісы не былі зарэгістраваныя. Частка беларускіх дзеячаў, якія не падтрымлівалі радыкальна-левыя настроі, пастанавіла вылучацца праз спіс нацыянальных меншасцяў. Некаторыя наогул схіліліся да супрацоўніцтва з уладамі і складалі так званыя «ўгадоўскія» спісы.

Выбарчая кампанія праходзіла ва ўмовах рэзкага абвастрэння палітычнай сітуацыі ў беларускай вёсцы. Галоўнай беларускай палітычнай структурай, якая супрацьстаяла ўрадавай палітыцы і праводзіла нацыянальную агітацыю, стала сетка гурткоў Таварыства Беларускай Школы. У склад гэтых гурткоў пераважна ўваходзілі былыя «грамадоўцы». Менавіта яны карысталіся найбольшай падтрымкай беларускага сялянства. Ход перадвыбарчай барацьбы знайшоў падрабязнае адлюстраванне ў дакументах польскіх паліцэйскіх установаў. У гэты перыяд гмінныя пастарункі паліцыі атрымалі прадпісанне штотыднёва складаць справаздачы пра развіццё палітычнай сітуацыі. Напярэдадні выбараў, апроч гэтага, яны мусілі яшчэ складаць спецыяльныя справаздачы пра сітуацыю адносна іх падрыхтоўкі. Намі былі прааналізаваныя падобныя справаздачы каменданта паліцыі Берштаўскай гміны Гарадзенскага павета, якія цалкам захаваліся за гэты перыяд.

Справаздачы Берштаўскага паліцэйскага пастарунка выразна засведчылі актывізацыю працэсу закладання гурткоў ТБШ на пачатку 1928 года. Паліцыя ацэньвала гэта як спробу кіраўніцтва ТБШ «такім спосабам згуртаваць шэрыя масы беларускага насельніцтва, каб у надыходзячых выбарах дамагчыся перамогі беларусаў». 12 студзеня 1928 года камендант берштаўскай паліцыі паведамляў: «Перадвыбарнай агітацыі заўважыць не ўдалося, беларускае насельніцтва паводзіць сябе пасіўна і выразных перадвыбарных поглядаў не выяўляе. Разам з тым сцверджана, што беларускія рэдакцыі ў справаздачным перыядзе дасылаюць большую колькасць беларускіх газетаў «Думка працы», «Беларускі дзень» і г.д.». Ён таксама адзначаў, што гэтае насельніцтва чакае інструкцыяў, ніякай інфармацыі адносна кандыдатаў не мае, а ўсе перадвыбарныя звесткі чэрпае з беларускіх газетаў «Беларускі дзень», «Сялянская Ніва» і г.д., якія бясплатна дасылаюцца з Вільні да гурткоў ТБШ. У выніку камендант прыйшоў да высновы, што ўсё беларускае насельніцтва, незалежна ад палітычных кірункаў, будзе галасаваць за спіс нацыянальных меншасцяў. Любыя акцыі і мерапрыемствы, якія спрабавалі наладжваць у вёсках актывісты гурткоў ТБШ, польская паліцыя разглядала праз прызму маючых адбыцца выбараў: «Гурткі Таварыства Беларускіх Школ увогуле вельмі актыўна выступаюць апошнім часам - арганізуюць прадстаўленні, каб такім чынам перад насельніцтвам прэзентаваць сваё значэнне, як беларускія арганізацыі, і быць для беларускага насельніцтва правадыром у кірунку пашырэння беларускай ідэі, а тым самым заахвочваць насельніцтва на будучых выбарах галасаваць за нацыянальныя меншасці».

У якасці контрмеры супраць дзейнасці былых «грамадоўцаў» і гурткоў ТБШ польскія ўлады абралі арганізацыю мясцовых суполак падтрымкі праўрадавага Беспартыйнага блоку супрацоўніцтва з урадам маршалка Пілсудскага. У Берштаўскай гміне першыя захады ў справе ўтварэння гміннага камітэта падтрымкі азначанага блоку распачаліся напрыканцы студзеня 1928 года.

5 лютага 1928 года ў будынку Берштаўскай пачатковай школы адбыўся сход з мэтай арганізацыі гміннага камітэта Беспартыйнага блоку супрацоўніцтва з урадам. У ім прыняло ўдзел 55 асобаў. Старшынём гэтага камітэта быў абраны войт гміны Мікалай Касцевіч, былы сакратар гміннага камітэта БСРГ(!і), а скарбнікам - Аляксандр Сініла, які вылучаўся кандыдатам у дэпутаты сейма на выбарах 1922 года ў адным спісе з Сяргеем Баранам. У азначаны камітэт таксама ўвайшлі яшчэ некалькі беларускіх дзеячаў. Адзін з іх - Аляксандр Мілінкевіч, былы пісар гміны, 6 лютага даслаў віншавальную тэлеграму Пілсудскаму ад імя сыноў і ўнукаў паўстанцаў 1863 года, запэўніўшы маршалка пры гэтым, што будзе галасаваць толькі за спіс №1. Камендант паліцыі адзначыў у сваёй справаздачы, што заснаванне камітэта Беспартыйнага блоку супрацоўніцтва з урадам зменшыла перадвыбарную актыўнасць гурткоў ТБШ, якія сталі дзейнічаць больш асцярожна. Брак матэрыялаў перашкаджае ўстанавіць сапраўдныя прычыны ўваходжання беларускіх дзеячаў у праўрадавы блок. Немагчыма дакладна сцвярджаць, ці гэта быў тактычны ход, ці яны сапраўды паверылі ў шчырасць абяцанняў Пілсудскага пайсці на ўступкі беларусам у справе надання ім аўтаноміі. Мясцовыя суполкі гэтага блоку неўзабаве ўзнікаюць практычна ва ўсіх вёсках гміны. Адначасова камендант паліцыі паведамляў, што апошнім часам наплывае ўсё большая колькасць беларускіх газетаў і часопісаў, якія пераважна атрымліваюць сябры гурткоў ТБШ, а затым раздаюць іх насельніцтву.

У лютым паліцыя распачала актыўныя рэпрэсіўныя дзеянні супраць беларускіх актывістаў. Першага лютага быў арыштаваны за правядзенне антыўрадавай агітацыі жыхар вёскі Новая Руда Фёдар Ушкевіч. Пятага лютага паліцыя затрымала жыхара вёскі Якубавічы Мацея Вараб'я, у якога падчас вобыску былі знойдзеныя «розныя беларускія лісты і нататкі». 15 лютага быў арыштаваны жыхар засценка Новішча Андрэй Наско. Прычынай арышту паслужыла тое, што Наско сабраў у вёсцы Шчанец 62 подпісы за спіс №13 і падаўся з імі да акруговай выбарчай камісіі, каб яго зарэгістравалі кандыдатам у дэпутаты сейма. Камісія адмовіла ў рэгістрацыі з прычыны нібыта спазнення падачы подпісаў. Вобыск у хаце Наско вынікаў не даў, паколькі ён паспеў знішчыць подпісы землякоў.

18 лютага 1928 года паліцэйскім пастарункам было загадана знайсці сярод сялянаў у сувязі з набліжэннем выбараў давераных асобаў, а таксама даслаць спісы беларускіх агітатараў.

Напрыканцы лютага 1928 года на тэрыторыі Берштаўскай гміны налічвалася ўжо 20 суполак у падтрымку Беспартыйнага блоку супрацоўніцтва з урадам. Паліцэйскі камендант адзначаў, што «ўсе суполкі дзейнічаюць слаба, але яны з'яўляюцца вялікай перашкодай іншым партыям, якія хацелі б пашырыць сваю перадвыбарную дзейнасць». Актывісты праўрадавых суполак праводзілі пры падтрымцы паліцыі перадвыбарныя мітынгі. Жыхар вёскі Косцевічы Аляксандр Мілінкевіч, вядомы мясцоваму насельніцтву як беларускі патрыёт, наладзіў 19 лютага такі мітынг у вёсцы Замасцяны, на якім прысутнічала каля 60 асобаў. Мілінкевіч абяцаў прысутным, што, калі яны будуць галасаваць за Пілсудскага, то апошні дасць беларусам аўтаномію. Напрыканцы мітынга было абрана кіраўніцтва праўрадавай суполкі. Затым Мілінкевіч накіраваўся ў вёскі Матылі, Дудкі і Раманава, але тамтэйшае насельніцтва адмовілася падтрымаць Беспартыйны блок. Прыязджалі ў гміну і іншыя праўрадавыя агітатары. 2 сакавіка адбыўся перадвыбарны сход у Берштах. У школьным будынку сабралася 150 асобаў. Урадавы агітатар Эдвард Боднар прамаўляў на польскай мове, а Сымон Панасевіч - на беларускай. Прамоўцы заклікалі галасаваць за спіс №1 і востра крытыкавалі іншыя выбарчыя блокі, якія быццам толькі баламуцяць народ.

Апроч праўрадавага Беспартыйнага блоку, Берштаўскую гміну наведалі толькі прадстаўнікі расейскага выбарчага аб'яднання. 26 сакавіка 1928 года ў Бершты прыехаў кандыдат на амбасадара ад гэтага аб'яднання Аляксандр Рохлін-Раманцоў, жыхар Вільні. Ён сабраў сход, на якім прысутнічала каля 50 асобаў. Кандыдат у паўгадзіннай прамове выклаў сваю праграму і востра раскрытыкаваў іншыя нацыянальныя блокі. На думку каменданта паліцыі прысутныя без зацікаўленасці прынялі прамову, а затым адмовіліся выбраць сярод сябе давераную асобу кандыдата і нават не хацелі браць улёткі спісу №20: «З усяе сітуацыі было відаць, што сход не ўдаўся і не зацікавіў прысутных».

**Сяргей Токць,**
**Кандыдат гістарычных навук**
**(Працяг будзе)**

| | №1 | №2 | №3 | №4 | №5 | №7 | №8 | №10 | №12 | №16 | №20 | №23 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Бершты | 202 | 1 | 48 | - | - | 1 | 46 | 1 | 13 | 515 | - | - |
| Пагарэнда | - | - | 19 | - | - | - | 2 | - | 25 | 370 | - | - |
| Сухары | 2 | 1 | 52 | - | 35 | 2 | - | 1 | - | 179 | - | - |
| Скідаль1 | - | 33 | 245 | - | 102 | - | 79 | - | 43 | 183 | - | 1 |
| Скідаль2 | - | 3 | 9 | 12 | 222 | - | - | 3 | 12 | 615 | - | 11 |
| Хвайняны | - | 36 | 250 | - | 432 | - | 11 | 1 | 5 | 11 | - | - |
| Масты | 5 | - | 386 | - | 12 | - | 180 | - | 171 | 88 | - | - |
| Марцінканцы | - | 4 | 17 | - | - | - | 9 | - | 16 | 37 | - | 6 |
| Лунна 1 | 2 | - | 78 | - | 102 | 47 | 92 | 4 | 5 | 236 | - | - |
| Лунна 2 | 2 | - | 250 | - | 98 | 8 | 172 | 1 | 1 | 25 | - | - |
| Дубна | - | 3 | 28 | - | 66 | - | 1 | 4 | - | 354 | - | - |
| Волпа | 28 | - | 38 | - | - | - | 414 | - | 135 | 417 | 13 | - |
| М.Берастав.1 | 6 | 18 | 91 | - | 92 | - | 110 | 1 | 17 | 235 | 1 | 18 |
| М.Берастав.2 | - | 23 | 29 | - | 213 | - | 151 | - | 3 | 446 | - | - |
| Галынка | - | - | 14 | - | 15 | - | 36 | 2 | 4 | 296 | - | - |
| В.Берастав. | - | - | 14 | - | 1 | - | 25 | 2 | 5 | 290 | - | - |
| Парэчча | 579 | - | 234 | - | - | 50 | 50 | - | 15 | 65 | - | 7 |
| Сабаляны | 24 | - | 159 | - | - | - | 3 | - | 1 | 61 | - | - |
| Грандзічы | 547 | 18 | 95 | - | - | 4 | 272 | 4 | 4 | 13 | - | 12 |
| Карашава | 18 | - | 12 | - | 16 | - | 19 | - | 1 | 245 | - | 1 |
| Друзгенікі | 416 | - | 20 | - | - | 12 | 45 | - | - | 21 | - | 2 |

**Крыніцы: Дзяржаўны архіў Гарадзенскай вобласці, ф.59, в.1,с.10.**

*** дадзеныя ў табліцы -толькі па частцы выбарчых участкаў, пераважна вясковых.**

**№1 – Польская народная партыя (ПСЛ); №2 – Польская сацыялістычная партыя (ППС); №3 – "Вызваленне" і "Народная Лявіца"; №4 – Агульнажыдоўскі работніцкі звяз; №5 – Звяз пралетарыяту гораду і вёскі; №7 – Нацыянальная рабочая партыя; №8 – Хрысціянскі звяз нацыянальнага адзінства; №10 – Дзяржаўна-нацыянальная унія; № 12 – Польскі цэнтр; № 15 – Сялянская радыкальная партыя; № 16 – Блок нацыянальных меншасцяў; №18 – Партыя вайсковых інвалідаў; № 20 – Жыдоўскі дэмакратычны нацыянальны Блок; № 23 – Нацыянальная партыя працы.**







# Пра феномен беларускай культуры эпохі Асветніцтва

**Убачыла свет кніга гарадзенскага гісторыка Святланы Куль-Сяльверставай «Беларусь на мяжы стагоддзяў і культур». У аснову яе леглі матэрыялы працы на атрыманне навуковай ступені доктара гістарычных навук.**

У манаграфіі разглядаюцца асаблівасці фармавання культуры Новага часу, характэрнай для індустрыяльнага буржуазнага грамадства на этнічных беларускіх землях, уключаючы рэгіёны, якія сёння не ўваходзяць у склад беларускай дзяржавы. Гэта тычыцца Беласточчыны і сталіцы тагачаснага беларускага культурнага жыцця Вільні, якія доўгі час пакідаліся па-за межамі даследаванняў беларускай гісторыяграфіі культуры.

Да гэтага часу ў беларускіх гісторыкаў няма адзінай думкі наконт храналагічных рамак Новага часу на Беларусі. Святлана Куль-Сяльверстава ўводзіць і абгрунтоўвае сваю перыядызацыю. Храналагічнымі цэзурамі працы з'яўляюцца 1772-1820-я гады. Ніжняя мяжа перыяду - час першага падзелу Рэчы Паспалітай, які, як адзначае аўтарка, «быў паваротным пунктам не толькі сацыяльна-эканамічнага і палітычнага, але і культурнага жыцця беларускіх земляў, стварыўшы глебу для шырокага пранікнення сюды расейскай культуры». Другое дзесяцігоддзе XIX стагоддзя таксама вызначаецца пэўнымі эканамічнымі (пачатак прамысловай рэвалюцыі ў Расейскай Імперыі) і палітычнымі (трансфармацыя рэфарматарскай палітыкі ўрада ў рэакцыю ў апошнія гады царавання Аляксандра I) пераўтварэннямі. Акрамя гэтага яно з'явілася «завяршаючым перыядам аднаго з этапаў фармавання культуры Новага часу на беларускіх землях»- культуры эпохі Асветніцтва. Яе характэрнымі асаблівасцямі з'яўляюцца публічнасць, бессаслоўнасць, нацыянальная вызначанасць, палітызаванасць ды інстытуцыялізаванасць.

Прааналізаваўшы культурна-гістарычныя працэсы на беларускіх землях напрыканцы XVIII - у пачатку XIX стагоддзяў, аўтарка прыходзіць да высновы, якая стала адной з асноўных тэзаў яе працы: узровень развіцця культуры тагачаснага беларускага грамадства адпавядаў капіталістычнаму ўкладу. Але ўваходжанне беларускіх земляў у склад Расейскай Імперыі запаволіла пераход на новыя формы гаспадарання. Бо захоўванне ў Расеі прыгоннага права стрымлівала сацыяльна-эканамічнае развіццё краіны.

У манаграфіі, пэўна, упершыню ў беларускай гісторыяграфіі, выкарыстоўваецца тэрмін «ліцвінская культура», якая вызначылася ў дадзены перыяд на тэрыторыях сучасных Заходняй і Цэнтральнай Беларусі, Літвы і Усходняй Польшчы. Яна несла ў сабе зерне будучых нацыянальных беларускай і літоўскай культураў. Менавіта ў той час былі створаныя асноўныя міфы беларускай і літоўскай гісторыі (легендарныя постаці князёў Вялікага княства Літоўскага) і сфармаваныя літаратурныя стэрэатыпы (мужык-беларус, шляхціч, дзяўчына-сялянка).

**Алеся Сідлярэвіч**

# Парэцкая царква

## *Святыні, цэрквы, манастыры - тагачасныя універсітэты*

**Ларыса Геніюш**

**Заканчэнне. Пачатак у NN34 - 37**

По соглашению с Государственным Контролёром, имею честь уведомить Ваше Сиятельство, вследствии отношения от 7 ноября 1879 г. за N 5533, что наложения Контрольною Палатою на бывших Членов Поречского Церковного Совета взысканий в количестве 770 рублей, передержанных ими против сметных назначений, при устройстве в 1865-1867 гг. православной Церкви в с. Поречье, подходят под действие ст. VII Высочайшего указа Правительственному Сенату от 19 февраля 1880 г. об облегчениях в уплате недоимок, пений и начётов. Что же касается остальных 208 рублей, составляющих штрафы за написание на простой бумаге 16 контрактов, заключённых с производившими постройку помянутой церкви подрядчиками, за неимение последними торговых свидетельств, то означенная сумма не была обращена в начёт, и ввиду приведённой статьи Высочайшего указа, дальнейшая переписка о взыскании её, по донесению Гродненской Контрольной Палаты, прекращена. Подлинное подписано Министром Внутренних Дел (подпись)»

11 кастрычніка 1880 года, праз 15 гадоў ад пачатку царкоўнага будаўніцтва, святар Гарачка атрымаў паведамленне Кантрольнай Палаты адносна таго, што яна да былога Парэцкага Царкоўнага Савета штрафных прэтэнзіяў не мае.

Яшчэ раней паводле ініцыятывы і з дапамогай Аляксандра Гарачкі была пабудавана ў Парэччы грамадская народная школа, у якой спачатку вучылася 10 хлопчыкаў. Першым зацверджаным настаўнікам у гэтай школе з 1 студзеня 1863 года быў святар Гарачка, які сваё жалаванне атрымліваў ад сялянаў. Пабудаваная ім школа дзейнічала да 1913 года.

Вось што нам вядома пра будаўніка і першага святара Парэцкай праваслаўнай царквы, першага настаўніка парэцкага аднакласнага вучылішча. Памёр ён, пэўна, у 1889 годзе і быў пахаваны каля царквы з паўднёвага боку. Удзячныя парафіяне зрабілі невялічкі падземны склеп, дзе была захавана труна з целам гэтага ахвярнага, няўрымслівага чалавека, які ўсё жыццё аддаў адукацыі і выхаванню хрысціянкіх каштоўнасцяў у душах мясцовых сялянаў. Склеп быў закрыты надмагільнай мармуровай плітою, а на ёй устаноўлены помнік. Было б натуральным бачыць павагу гэтаму рупліўцу ад удзячных нашчадкаў парэцкіх сялянаў. Аднак няма на магіле святара і настаўніка Аляксандра Гарачкі кветак, бо склеп цяпер разбураны.

Справу Аляксандра Гарачкі ў Парэччы прадоўжыў новы святар і законавучыцель Фёдар Іванавіч Савіцкі. Вядома, што ён нарадзіўся 1 сакавіка 1868 года. Пасля заканчэння Літоўскй духоўнай семінарыі 29 кастрычніка 1889 года ён бесперапынна выконваў гэтыя абавязкі аж да бежанства з Парэчча падчас першай сусветнай вайны (1916 год). Пры польскім часе святаром у Парэччы дзесьці да 1935 года быў слуцкі паўстанец, а потым знаны змагар за незалежнасць Беларусі, ураджэнец в.Сурынка Слонімскага павету, Хведар Данілюк.

Надышлі бальшавіцкія часіны. Падчас праўлення Хрушчова, час разгулу бязбожжа, цэрквы ператваралі ў клубы ці склады, крыжы з касавінай замяняліся на чырвоныя пяцікутныя зоркі, скідаліся званы і нішчыліся каштоўныя іканастасы. Вытраўлівалі ўжо праваслаўе. У гэты цяжкі час служыў Богу і бараніў Парэцкую царкву ад закрыцця святар Мікалай Корп. У шасцідзесятыя гады, пасля ягонай смерці, бальшавікі ўсё ж царкву зачынілі, размясцілі там калгасны склад, а потым спалілі.

У час усплёску беларускага Адраджэння мясцовы калгас зрабіў спробу адрамантаваць царкву. Была пакрыта бляхай званіца, пастаўлены рыштаванні і нават зацягнуты некалькі бэлек на сцены. Але за 10 гадоў цэлы калгас з магутнейшай тэхнікай не здолеў адрамантаваць храм, які нашымі продкамі голымі рукамі быў пабудаваны за два гады. І стаіць сіратліва ў полі абпаленая, абадраная царква. Зарасла дарога да святыні. Як балючая рана на нашым сумленні, каля яе ляжыць разваленая магіла-склеп з касцямі, перамешанымі са смеццем і друзам, першага парэцкага праваслаўнага святара і настаўніка Аляксандра Паўлавіча Гарачкі.

Няма святыні - няма веры. Ганьбіцца мараль, расце разбэшчанасць і п'янства навакольнага люду. Божа, адкрый вочы сляпым, бо яны не ведаюць, што робяць!

**Аляксандр Талерчык, сябра Гарадзенскай абласной краязнаўчай асацыяцыі імя Тодара Нарбута**

# COCKTAIL-PARTY з лагодным дэндзі

**Рэжысёраў у гарадзенскія тэатры заўсёды прысылалі звонку. Яны традыцыйна пампезна-гучна пачыналі, мяркуючы, што нясуць тутэйшаму люду высокую расейскую і сусветную культуру. Але свой творчы побыт у Гародні заканчвалі вельмі бляклa: або співаліся, або вярталіся туды, адкуль нялёгкая прынесла «ў пошуках і славы, і чыноў», або іх адпраўлялі на пенсію, ці проста здымалі з пасады... Карацей, яны былі гэтаксама, як і чыноўнікі, што іх прызначалі, усяго толькі «временщиками». Іх не цікавілі праблемы беларускай культуры, адно ўласныя амбіцыі ды грошы.**

## Саманадзейныя «таленавітыя» рэжысёры і «бяздарныя» беларускія пісьменнікі

Рэпертуарную ж палітыку вырашае збольшага ніякая не мастацкая рада (яна зазвычай не больш як фікцыя), а галоўны рэжысёр. Натуральна, што ён не зацікаўлены ў пошуках сучасных беларускіх п'есаў і далейшай іх сцэнічнай інтэрпрэтацыі. Сучасным аўтарам акрамя ганарару трэба плаціць яшчэ і аўтарскія. Прасцей узяць сусветна вядомага класіка, самому напісаць інсцэніроўку, самому паставіць ды...пакласці ўсю «касу» сабе ў кішэню. Класік даўно згніў, нават ад труны нічога не засталося, дык ён не пакрыўдзіцца і ад жаху, што з яго бессмяротнага твору зрабілі хрэн ведае што, не перавернецца ў магіле. Затое глядач пойдзе ў тэатр не дзеля таго, што спектакль паставіў «амбітны» рэжысёр. Глядач спакусіцца на імя класіка. Іншая справа, ці ён будзе захапляцца, ці плявацца ад пабачанага...

...Менскі рэжысёр, скандальна вядомы Аляксей Ляляўскі прапанаваў ідэю, што сучасны спектакль не абавязкова павінен абапірацца на літаратурны твор. Добра, хай сабе так. Але ж паставіў на гарадзенскай сцэне свае сумнавядомыя «Ліпавічкі», прыкрыўшыся імем Уладзіслава Галубка! Спекталь у Гародні праходзіў з поспехам, а калі прывезлі на прагляд у Менск - выбухнуў скандал. Бо міністэрскія чыноўнікі, якія давалі дзяржзамову, заўважылі, што на сцэне адбываецца зусім іншае, чым у сцэнары. Гэта і дало ім сур'ёзную падставу для забароны спектакля. Я думаю, Ляляўскі выдатна ведаў, што без літаратурнай асновы ён не атрымае дзяржзамовы (грошай на пастаноўку) і што менавіта імя беларускага класіка Уладзіслава Галубка будзе галоўным козырам у станоўчым вырашэнні пытання. Бедны Галубок...

Я, вядома, супраць забароны твораў мастацтва. Але, як прафесійны літаратар, не магу маўчаць, калі нехта бруднымі рукамі лепіць з класікі свае нягеглыя забаўкі толькі дзеля таго, каб у атупелага люмпена выклікаць інстынктыўны рогат.

Колькі словаў пра сучасную беларускую драматургію. Неяк у інтэрв'ю ПАГОНІ былы галоўны рэжысёр Гарадзенскага драмтэатра Генадзь Мушперт заявіў, маўляў, беларускага мадэрнізму няма, не сачыняюць. А што такое п'есы Пятра Васючэнкі, Сяргея Кавалёва, Лявона Вашко, Ігара Сідарука, Максіма Клімковіча і Міраслава Шайбака? З упэўненасцю заяўляю, што гэта і ёсць сучасны беларускі постмадэрн ці, калі хто жадае, трансавангард. У каго схільнасці да больш традыцыйнай драматургіі - прапаную п'есы Вінцэся Мудрова і Андрэя Федарэнкі. Тым больш яны існуюць не ў рукапісах, а надрукаваныя дастатковым накладам у зборніках і часопісах. Проста трэба глядзець далей уласнага носа. Я прапаноўваў гарадзенскім рэжысёрам хаця б прачытаць дзеля знаёмства гэтых аўтараў. Ды дзе там! Яны лічаць сябе такімі недасягальнымі знаўцамі... Я падумаў: «А чаму гэтых аўтараў ставяць недзе ў Менску, Брэсце, Маладэчне, Віцебску? Там што - больш беларускасці, чым у Гародні? А можа, наш родны горад і зусім не родны для прысланых звонку «эстэтаў»?

Новапрызначаны галоўны рэжысёр Гарадзенскага драмтэатра Сяргей Палешчанкаў у інтэрв'ю ПАГОНІ прывёў сенсацыйныя лічбы. Выяўляецца, за год было напісана 60 беларускіх п'есаў, але ўсе яны вельмі слабыя, і толькі недзе дзесяць з іх можна прыняць да пастаноўкі. Цікава, а хто займаецца падобнай статыстыкай? Саюз пісьменнікаў? Міністэрства культуры? Ці мо прыснапамятны камітэт па аўтарскіх правах іх ужо зарэгістраваў? Ці яны проста надрукаваныя ў перыёдыцы? А можа, іх было напісана 56 або 83? І хто мае паўнамоцтвы вырашаць: слабая ці моцная мастацкая рэч?

**Юры Гумянюк**

**(Працяг будзе)**

# Гараскоп

♈ **Баран (21.03-20.04).** Не будзеце ўвязвацца ў праекты, дзе спатрэбіцца ўкладанне Вашага капіталу, - тыдзень пройдзе адносна спакойна. Можаце спадзявацца на падтрымку Блізнятаў.

♉ **Бык (21.04-20.05).** Пазбягайце інцыдэнтаў з каханай(-ым) на фінансавай глебе, калі не маеце жадання сапсаваць сабе ўікэнд. Добрых звестак здалёк чакайце напрыканцы тыдня.

♊ **Блізняты (21.05-21.06).** Мажліва, некаторыя з Вашых здагадак і слушныя, аднак пакуль што не выносьце іх на ўсеагульнае абмеркаванне. У чацвер наведайце сваякоў.

♋ **Рак (22.06-22.07).** Суцішце свае амбіцыі, не зацыклівайцеся на няўдачах і не зважайце на праблемы. Захоўвайце аптымізм!

♌ **Леў (23.07-23.08).** Да працы падыходзьце творча і не скіроўвайце агрэсію на сваіх калег. Надзвычай удалы дзень - серада.

♍ **Панна (24.08-23.09).** Вялікія нагрузкі дома і на працы - з'ява часовая. Хутка адчуеце значную палёгку.

♎ **Шалі (24.09-23.10).** Асцерагайцеся плётак і па мажлівасці меней кантактуйце з іх верагоднымі крыніцамі.

♏ **Скарпіён (24.10-22.11).** Лепшы спосаб для замацавання Вашых пазіцыяў - займацца відавочнай усім справай, а не марнай балбатнёй.

♐ **Стралец (23.11-21.12).** На гэтым тыдні разлічвайце толькі на сябе і не перакладайце свае праблемы на чужыя плечы. Пастарайцеся больш увагі надаць дзецям.

♑ **Казярог (22.12-20.01).** Надышоў час распачынаць творчыя праекты. У фінансавых справах спадзявайцеся на інтуіцыю. Шукайце падтрымкі з боку Шаляў.

♒ **Вадалей (21.01-19.02).** Не ўскладняйце адносіны з каханым чалавекам. Лепей зрабіце яму незвычайны падарунак. Гасцей чакайце ў чацвер.

♓ **Рыбы (20.02-20.03).** Маленькія, але прыемныя сюрпрызы ў асабістым жыцці прыхарошаць Ваш і без таго ўдалы ўікэнд.

ПАГОНЯ
Заснавальнік: культурна-асветніцкі фонд "Бацькаўшчына"

Адрас рэдакцыі:
230025, г. Гродна, вул. К. Маркса, 11.
Тэл.72-37-14, 72-35-61, факс 72-29-96.
E-mail: pagonia@irex.minsk.by
Падпісны індэкс: 63124.

Рэгістрацыйны нумар 597. Нумар газеты надрукаваны ў Гарадзенскім абласной унітарным паліграфічным прадпрыемстве «Гродзенская друкарня»
Адрас: 230023, г.Гродна, вул. Паліграфістаў, 4.
Замова 3172 Наклад 7 160
Нумар падпісаны да друку ў 16.00 4.10.2000 г.

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць асабістую адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў, іх меркаванні не абавязкова адлюстроўваюць погляд рэдакцыі. Якасць друку адпавядае пададзеным рэдакцыяй дыяпазітывам.
Аб'ём - два ўмоўныя друкарскія аркушы.

Галоўны рэдактар Мікола Маркевіч

Камп'ютарны набор: Аксана Бурдзюк,
камп'ютарная вёрстка: Аляксей Салей